Год VII. Сьнежань № 13 (86).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 13:



*Дзеля ўшчнаваньня беларускіх, юбілеяў прыпадаючых пераважна на канец 1935 году, гэты № 13 „Шляху Моладзі" выдаём у пабольшаным разьмеры, каб такім чынам мець магчымасьць хоць коратка над імі затрымацца.* РЭДАКЦЫЯ.

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F. f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — І, і | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі"
МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.
Заграніцу — ўдвая даражэй.
**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Сьнежань 1935 г. | № 13 (86). |
|---|---|---|


## МАРШ МАЛАДЫХ

Ідзём і ў цемру навакола
Мы сеем зорныя агні.
Мы — бом зьвнячая вясёла,
Мы—хмель бурліва малады.

Адраджэньне зарунела,
Ярка ўспыхнула зара.
Гэй, браты! Наперад сьмела,
Годзі спаць! —
Нам жыць пара.

Ідзём замкнутымі радамі,
Наш шлях да новых дзён вядзе.
Трымаць свой лёс мы хочам самі
І верым толькі барацьбе
Адраджэньне і г. д.

Мы — скрылы творчага натхненьня,
Мы — дух бунтуючы зямлі.
У песьнях радасьць Адраджэньня
І шум вясьняна-малады
Адраджэньне і г. д.

Ў грудзёх жыцьцё бруіць вулканам,
Крынічыць кроў уся агнём.
Будзіць братоў, будзіць заспаных
З усходам сонечным ідзём
Адраджэньне і г. д.

З вятрамі ў замець і віхуру,
Заўсёды сьцяпша рады мы
І як сястру вітаем буру
І прыймем вызаў барацьбы.
Адраджэньне і г. д.

**М. Машара.**

# За родную беларускую школу

*(У 20-тыя ўгодкі першае легальнае публічнае беларускае школы)*

Сьвятло — асьвета і навука гэта элемэнты, без якіх трудна выабразіць сабе жыцьцё і поступ. І хіба ня знойдзецца такі чалавек, які мог-бы гэтаму запярэчыць, бо ўсе гэта добра разумеюць. Разумее гэта не ад сяньня і беларускі народ, які ўжо з-давён даўных імкнецца да асьветы і да здабыцьця свае школы.

Пачынаючы ад 1905 г. барацьба за бел. школьніцтва зьяўляецца адным з галоўных мамэнтаў беларускага вызвольна-адраджэнскага руху. І ад гэтага часу пачынаюць беларусы арганізаваць сваё школьніцтва. Ня маючы аднак магчымасьці рабіць гэта легальна, праводзяць сваю работу тайна. Паўстае цэлы рад нелегальных (тайных) беларускіх школ. Слаўны наш пясьняр Якуб Колас творыць нелегальны саюз беларускіх вучыцялёў, за што пасьля пападае ў вастрог. Ня гледзячы аднак на ўсе перашкоды работа йдзе наперад.

У часе сусьветнай вайны, пасьля заняцьця нашых зямель нямецкім войскам, беларусы, маючы магчымасьць закладаць легальна свае школы, разьвіваюць у гэтым кірунку энэргічную дзейнасьць і ад восені 1915 году паўстае да прыбыцьця польскага войска больш 350 пачатковых беларускіх школаў*), вучыцельскія курсы і сэмінарыя ў Сьвіслачы. За часоў Сярэдняе Літвы й Літвы ў Віленшчыне паўстае 186 пач.бел. школ і сэмінарыя ў Барунах. Апроч таго арганізуецца некалькі беларускіх гімназіяў (у Будславе, Вільні, Наваградку, Горадні, Радашкавічах, Клецку і Вял. Гарадку). У 1926-27 годзе беларусы падаюць польскім школьным уладам дамаганьні (дэкларацыі) на адчыненьне 481 бел. пач. школу для 19,427 дзяцей. Пасьля робяцца спробы закладаць прыватныя беларускія пачатковыя школы і ў гэтай справе было падана 108 заяваў

Цяпер паўстае пытаньне, колькі-ж можа быць беларускіх школаў у сучасны мамэнт у граніцах Польскае Дзяржавы.

Адказ на гэта пытаньне дае Віленскі Школьны Куратар, паводле якога**) ёсьць усяго 69 пач. школ, у якіх толькі „język białoruski uwzględniony" і адна гімназія ў Вільні і тая не самастойная. Вось і ўсё, бо прыватных бел. школ няма.

Дзе-ж тады дзеліся беларускія пачатковыя школы і гімназіі сарганізаваныя беларусамі?

Усе яны, як кажа К. Срокоўскі***), зьліквідаваны „w sposób drastyczny." Паданыя-ж дэкларацыі, як бачым, з'ігнараваны (ня ўзяты пад увагу). А пасьле гэтага ўспомнены Віленскі Школьны Куратар мае йшчэ адвагу заяўляць, што беларусы школ сваіх не дамагаюцца.

Што-ж тады рабіць?

---

*) Першая беларуская легальная пачатковая школа паўстала ў канцы 1915 г. у Вільні пры сяньняшняй вул. Міцкевіча 44.

**) „Kur. Wil." № 325 z dn. 26.XI.35.

***) „Sprawy narodowościowe na Kresach Wschodnich". Kraków 1924.

Вось-жа сяньня ў 20-тыя ўгодкі арганізаваньня першых беларускіх пачаткавых публічных школаў, а так жа ў адказ Віленскаму Школьнаму Куратару трэба распачаць свае дамаганьні нанава. Трэба засыпаць ўсіх школьных інспэктараў дэклярацыямі, заявамі з новым дамаганьнем адчыненьня беларускіх школ. Трэба высылаць да іх у гэтай справе дэлегацыі.—Вядучы школьную акцыю, не забывайма аб прыватным навучаньні, аб самаадукацыі і асьвеце пашкольнай. Закладайма гурткі бел. культурна-асьветных арганізацыяў, бібліятэкі, чытальні, навучайма прыватна маладых беларускае граматы і г. д.

Словам, усе на культурны фронт, за родную беларускую школу, за асьвету... Я. Н.

---

## U 15-ja UHODKI SŁUCKAHA PAŬSTAŃNIA

1920 hod dabiahaŭ užo svajho kanca. Dabiahała tak-ža da kanca i polska-balšavickaja vajna. Biełaruskija ziemli pierachodzili z ruk u ruki. U Ryzie ŭžo siadzieli hieneraly i palityki i dzialili Biełaruś. Najvyšejšy ideał Biełaruskaha Narodu vyražany Aktam 25.III.1918 ŭ Miensku, staptany. Biełaruś biazsilnaja...

Ale voś źmiena „varty"...

Na padstavie polska-balšavickaha parazumieńnia, polskaje vojska pakidaje zaniatuju raniej Słuččynu i addaje jaje balšavikom.

Adpaviedny mament...

Nie prapuskajuć jaho haračyja słuččaki. Jany chvatajuć za aružža i kidajucca ŭ vir baraćby za Biełaruś, za jaje volu i niezaležnaść. Heta ničoha, što prad imi paŭstajuć, jak ciomnyja chmary, balšavickija pałki za pałkami. Jany, słuččaki, dla Biełarusi hatovy na ŭsio, navat na śmierć.

Na vodhałas strełaŭ słuččakoŭ chutčej pačało bić serca ŭ kožnaha biełarusa... A moža Biełaruś budzie niezaležnaj... Ciešylisia patryjoty i słali paŭstancam słovy paciechi dy staralisia pomačy...

Pryjazna na heta hladzieli i palaki. Čamu nie... byli pryčyny...

U Słuččynie boj razharaŭsia... Ale z kožnym dniom balšaviki kidali ŭ Słuččynu novyja siły. Rady hordych ale niaŭzbrojenych paŭstancaŭ radzieli. Padali što-raz novyja achviary... Urešcie-ž paŭstańnie zhašana i złamana... Reštki paŭstanckich siłaŭ apynulisia ŭ polskich kancentracyjnych łahierach, a paśla rasplylisia pa ŭsim śviecie...

Z Ryhi jšli novyja viestki. Tam užo była vyznačana doŭhaja i strašnaja miaža, jakaja dzialiła žyvoje cieła Biełarusi...

Pa Słuckim Paŭstańni astaŭsia tolki ŭspamin. U historyju ž Biełarusi prybyła novaja załataja bačyna.

Siańnia minuła ŭžo ad hetaha času 15 hadoŭ. Adzinokija mahiłki paŭstancaŭ daŭno pazarastali dziarnom i śled pa ich hinie. Pamiać adnak ab viernych synoch Biełarusi budzie tryvać viečna, a češć im buduć addavać usie pakaleńni.

Češć addajom i my im — słuččakom, biełarusam i tolki im, jakija jšli na klič Biełarusi i za Biełaruś kłali svajo žyćcio, vyklučajučy tych, katoryja chacieli zrabić paŭstańnie niejkaj intryhaj... j. n.

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

## XI. Спробы будаваньня незалежнай Беларусі пасьля акту 25.III.1918 і яго значэньне.

### § 3. Сутнасьць Акту 25.III.18 і яго значэньне для будучыні Беларусі.

(*Заканчэньне*).

Як бачым з усяго ў гэтай працы сказанага, акт 25.III.18 сапраўды займае галоўнае месца ў справе нацыянальна-палітычнага вызваленьня беларускага народу. Актам гэтым Беларускі Народ праз вусны сваіх лепшых сыноў выявіў свой Найвялікшы Ідэал Незалежнай Беларусі. Маючы гэты Ідэал, народ наш рабіў магчымыя сабе захады, каб яго зьдзейсьніць, каб зрабіць яго сапраўднасьцяй. На жаль, сілы аказаліся яшчэ заслабыя і Ідэал Незалежнай Беларусі покульшто так Ідэалам і астаўся, заахвочваючы Беларускі Народ да далейшай вытрывалай працы і барацьбы за сваю Незалежнасьць у будучыні.

Ідэал гэты ня ёсьць скасьцянелай формулай. Не. Ён жывы, актуальны і штораз больш захапляе масы Беларускага Народу. Жывучасьць і актуальнасьць гэтага Ідэалу відацца хоць-бы з таго, што з аднаго боку ўсё беларускае нацыянальнае і незалежнае грамадзянства стойка і рашуча яго бароніць і астаецца яму верным, а ўзноў з другога боку — ворагі гэтага Ідэалу, так-жа рашуча і заядла яго ганьбяць і паборваюць. І гэта зразумела:—тыя сярод беларусаў, што прызнаюць беларускі народ і для яго дабра працуюць, бароняць так-жа й найвышэйшы Ідэал гэтага народу, а тыя, што агулам не прызнаюць ніякай нацыі, а ў тым ліку і беларускай, Ідэал гэты ганьбяць і топчаць.

Прыглядзімся да сутнасьці Ідэалу, абвешчанага актам 25.III.18.

Камуністы цьвердзяць, што Ідэал гэны замест шчасьця беларускаму народу вясьціць у будучыні капіталістычны буржуазны грамадзкі лад, а знача нясе з сабой крыўду і нядолю гэтаму народу. Тымчасам так ня ёсьць. Ідэал 25.III нясе нашаму народу прадусім волю, каб ён сам сабе завёў такі грамадзкі лад, які ён захоча і які будзе ўважаць за найбольш для сябе карысны.

Далей тыя-ж камуністы ганьбуюць актам 25.III затое, што быццам нясе ён Беларусі перастарэлы і шкодны для працоўных палітычны лад, як дэмократычная рэспубліка, прытым варожая да Расеі, а збліжаная да Польшчы і да дзяржаў Заходняй Эўропы. Вось-жа й тут ня так. Акт 25.III.18

у сутнасьці не азначае ніякага конкрэтнага палітычнага ладу, не нясе з сабой ніякіх так званых палітычных ор'ентацыяў, ані тым больш ня мае ў сабе нейкіх варожасьцяў да якога-небудзь народу. Акт 25.III нясе Беларускаму Народу прадусім волю выбраць сабе такі палітычны лад, які яму найбольш да ўспадобы і які яму быў-бы найбольш карысны.

Няпраўда так-жа, што акт 25.III.18 нясе з сабой шовінізм, ненавісьць да іншых народаў і зьвярыны нацыяналізм. Не. Гэты акт нясе з сабой беларускі нацыянальны прынцып у рамках агульна-людзкай справядлівасьці, як сучасную і неабходную падставу культурнага разьвіцьця, грамадзкага і палітычнага вызваленьня.

Сутнасьць такім чынам Ідэалу акту 25.III у тым, што ён імкнецца да тагс, каб Беларусь у сваіх этнографічных межах была ад пастароньняй сілы незалежнай: грамадзка-палітычна, культурна і эканамічна. Гэта-ж бывае з якім народам тады, калі над ім ніхто не пануе, а калі ён усім сваім жыцьцём кіруе сам. Гэткія-ж Ідэалы нясе з сабой акт 25.III і беларускаму народу. У гэтым і сутнасьць гэтага Ідэалу, а рэшта — пабочныя да яго дадаткі. Знача, калі-б народ беларускі стаўся незалежным, ён тады сам сабе выбраў-бы грамадзкі лад у нутры, а так-жа сам сабе выбраў-бы і палітычных саюзьнікаў з суседніх і далейшых народаў, бо палітычнае жыцьцё якога народу тады ёсьць нармальным, калі народ будучы ўжо незалежным, ідзе ў саюзы з іншымі народамі, а не наадварот.

Гэткая ў агульных славах сутнасьць Ідэалу акту 25.III. Сутнасьць гэта апіраецца на кожнаму зразумелым праве прыроды і на справядлівасьці.

Незалежнасьці, вынікаючай з акту 25.III, вымагае так-жа й дух часу. Усе народы на ўсім сьвеце: белыя, чорныя, жоўтыя, чырвоныя або праз працу й барацьбу ўжо здабылі сабе незалежнасьць, або для яе далей працуюць і за яе борацца, праліваючы часта кроў сваю.

Ад людзей урэшце пастароньніх, нават ня ворагаў нашых, можна часта пачуць закід, што Ідэал незалежнасьці Беларусі — гэта ўтопія, гэта ніколі не выканальная фантазія. Нічога. Гэтаксама ўтопіямі называлі незалежніцкія імкненьні шмат-шмат якіх народаў. Аднак прышоў час і гэныя ўтопіі сталіся фактам. Мы верым, што так будзе і з Беларускім Народам. Калі толькі народ наш проймецца наскрось Ідэалам сваей незалежнасьці і яксьлед зразумее ўсю веліч і важнасьць яго і калі наступяць адпаведныя варункі, дык Незалежнасьць гэту ён здабудзе напэўна. Фактам-жа незапярэчным ёсьць, што працэс пранікання нашага народу зьместам Ідэалу акту 25.III сапраўды адбываецца. А ў гэтым і значэньне яго для Беларусі, як незалежнай дзяржавы ў будучыні.

## Хронолёгія гістарычных фактаў уведзеных у апошнія разьдзелы працы „Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня“.

Падаю тут у хронолёгічным парадку цэлы рад гістарычных фактаў, якія ўведзеныя ў тэкст, значна яго абцяжылі-б, а каторыя ведаць, для ясьнейшага разуменьня беларускай незалежніцкай палітыкі, трэба неабходна.

Акупацыя немцамі Зах. Беларусі: восень 1915 г. — Расейская рэвалюцыя: канец лютага і пачатак сакавіка 1917 г. — Расейская бальшавіцкая рэвалюцыя: кастрычнік 1917 г. — Усебеларускі Кангрэс у Менску: ад 5 да 18 сьнежня (стар. стылю) 1917 г., разгон Кангрэсу бальшавікамі з 17 на 18 сьнежня (стар. стылю). — 18 сьнежня Рада Кангрэсу выбрала Спаўняючы Камітэт. — 20 лютага 1918 г. утвораны першы беларускі ўрад пад назовам Народны Сакрэтарыят. — Перагаворы ў Берасьці між бальшавікамі і цэнтральнымі дзяржавамі з перарывамі — ад 3 сьнежня 1917 да 4 сакавіка 1918 г. У гэтым міжчасе ў тымжа Берасьці цэнтр. дзяржавы з украінцамі падпісалі дагавор — 9 лютага 1918. Беларусы на гэтыя перагаворы ня былі дапушчаны — і заняцьце Менску акупацыя немцамі далейшых беларускіх зямель аж да Воршы — 25 лютага 1918 г. — Дагавор у Берасьці бальшавікоў з цэнтральнымі дзяржавамі — 3 сакавіка 1918. — У сакавіку 1918 Рада Кангрэсу была перайменавана на Раду Бел. Народнай Рэспублікі — 25 сакавіка 1918 абвешчаньне Радай Рэспублікі незалежнасьці Беларусі. — 9 кастрычніка 1918 г. Беларускі Народны Сакрэтарыят перайменаваны на Раду Міністраў — 20 лістапада 1918 г. дагавор аб палітычнай дружбе між Віленскай Беларускай Радай і Літоўскай Тарыбай. — 9 сьнежня 1918 г. перадаўшы ўладу бальшавіком, немцы пакінулі Менск і ўсю Беларусь. —1 студзеня 1919 г. бальшавікі, заняўшы Зах. Беларусь, абвесьцілі Беларусь незалежнай рэспублікай. —27 лютага 1919 аб'яднаньне Савецкай Беларусі з такой-жа Літвой (Літбел). — 19 красавіка 1919 г. палякі, прагнаўшы бальшавікоў, занялі Вільню.—28 чэрвеня 1919 мірны дагавор у Вэрсалі. — 1 жніўня 1919 бальшавікі ўзноў абвесьцілі незалежную Савецкую Сацыялістычную Беларусь. — 8 жніўня 1919 палякі занялі Менск. — 13 сьнежня 1919 сход Рады Бел. Нар. Рэспублікі, на які сябры Рады, што ар'ентаваліся на Польшч, ня прыйшлі і стварылі Найвышэйшую Раду. — 11 ліпня 1920 г. бальшавікі, прагнаўшы палякоў, узноў занялі Менск і пайшлі на Варшаву. — Летам 1920 г. заняцьце Літоўцамі Вільні. — 12 ліпня 1920 дагавор Літвы з Масквой, па якому часьць Зах. Беларусі адыходзіць да Літвы. — 15 жніўня 1920 г. палякі гоняць бальшавікоў узноў на ўсход. — 11 лістапада 1920 між урадамі Літвы і Беларусі падпісаны дагавор аб узаемным падтрыманьні. — 9 кастрычніка 1920 г. польскі ген. Жэлігоўскі забірае ад Літвы Вільню. Стварэньне Сярэдняй Літвы: пав.: Віленскі, Ашмянскі, Сьвянцянскі і часьць Троцкага. 20 сакавіка 1921 рыскі дагавор, які ўсталіў сучасную бальшавіцка-польскую граніцу. На перагаворы беларусы дапушчаны ня былі. Перагаворы цягнуліся ад восені 1920. — У канцы 1920 г. — беларускае Слуцкае паўстаньне проціў бальшавікоў: арганізавала яго, пры падтрыманьні польскага гэнэральнага штабу, Бел. Найвышэйшая Рада. — 25 верасьня 1921 г. Усебеларуская Канфэрэнцыя ў Празе Чэскай. — 8 студзеня 1922 г.: Віленскі Сойм, які 20 лютага 1922 Вільню далучыў да Польшчы. — 14 сакавіка 1923 г. Рада Амбасадараў прызнала сучасныя граніцы Польшчы. — У канцы 1925 г. перадача некаторымі сябрамі Бел. Нар. Рэспублікі і яе міністрамі мандатаў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы.

# U čeść Mikoły Nikifaroŭskaha

Z pryčyny prypadajučych sioleta 25-tych uhodkaŭ śmierci vydatnaha biełaruskaha etnografa Mikoły Nikifaroŭskaha i dziela ŭšanavańnia jahonaj pamiaci, Centralny Urad Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni, ŭ svajej zali dnia 30.XI siol. ŭviečary ładziŭ uračystuju akademiju. Pačaŭ akademiju pramovaj staršynia Instytutu Ks. V. Hadleŭski, na jakoha prapanovu ŭsie prysutnyja na akademii, katorych było poŭnaja zala, ušanavali pamiać M. Nikifaroŭskaha chvilinaj maŭčańnia.



Paśla hram. M. Pieciukievič pračytaŭ abšyrny referat ab žyćci i pracy M. Nikifaroŭska. Prelehient uvydatniŭ vialikija zasłuhi M. N. dla biełaruskaha adradžeńnia i navuki ahułam, a tak-ža pračytaŭ vialiki śpis pracaŭ jahonych. Pa referacie Chor Bieł. Instytutu Haspadarki i Kultury pad kiraŭnictvam inž. A. Klimoviča ŭdała prapiajaŭ viazanku biełaruskich narodnych pieśniaŭ.

Vyšej padajom repradukcyju partretu M. Nikifaroŭskaha, narysavanaha biełaruskim mastakom Uł. Paŭlukoŭskim pavodle fatahrafii Janušajtisa.

---

# Kali toje budzie?

Ciažki padyjmajecca lamant, płač i narakańnie z usich kutkoŭ našaj Biełarusi.

Boža! — Našto siańnia tak narakajuć ludzi?

Na zimu, katoraja ŭžo całuje marozam i nie daje nasa za dźviery pakazać? na minułaje daždžavoje leta? na harod, što mała abdaryŭ jabłykami? na kury, što tannyja jajki znosiać? abo ŭznoŭ na karovu, što chudoje daje małako!

Dziŭnyja ludzi! Dyk što-ž vinavata kuryca, što za jaje jajko nichto nia choča dać bolej jak 6 hrašoŭ, abo harod, kali rak jaho hryzie, a dahladu nijakaha niama.

Maroz siače, bo našto-ž zima, kab nie siakła. Karova ŭznoŭ mała daje małaka, bo z parožnaha i mudraść Salamona nie nalje.

Chto vinavaty? Całaviek, ci skacina, jakuju naležna nie dahladajuc? A ci całaviek u adnosinach da całavieka spraviadlivy? Hlańmo ŭ žyćcio.

Dziela čaho Ivan Hałapup nia zmoža ažanicca z Hanulkaj z Makaŭlan, choć daŭno žadajuć, — bo jana maje bolej ziamli.

Heta nie pamahaje, što Hanulka mała z hłuzdu nia zyjdzie za Jankam, a Janka chłapiec, jakich mała, ale nia maje ziamli stolki, kolki treba. Kab heta było ŭ Janki mieniej rozumu, a bolej ziamielki, dyk usio było b dobra.

Abo dziela čaho Stasiuk nia choča hutaryć z Kaziukom tolki nos u haru zadziraje, byccam słoń svaju trubu? Bo Stasiuk dastaŭ ad dziadźki niabožčyka vałoku ziamli i maje za što ŭ niadzielu ŭ Moŭški paciahnuć. Kaziuk jošć hoły, jak śviaty turecki, maje adzin zafejdany chvost u chlavie, babu i čaćviora krykačoŭ.

Što z hetaha, što Kaziuk znajecca na ŭsim, što łabaty z jaho chłapiec.

* * *

Kali-ž nastanie para, jak Iwan Hałapup aženicca z Hanulkaj nia dziela taho, što jošć roŭna majemaść, ale dziela taho, što imknucca da siabie?

Kali-ž Stasiuk z Kaziukom buduć z saboj hamanić, jak całaviek z całaviekam?

V. P.

## Śviatkavańnie jubileju J. Kupały ŭ Rad. Biełarusi

U m-cy śniežni sioleta ŭva ŭsiej Radavaj Biełarusi ŭračysta byli śviatkavany 30-ja ŭhodki litaraturnaje tvorčaści Biełaruskaha Narodnaha Paeta Janki Kupały.

Usiudy adbyvalisia litaraturnyja viečary pryśviačanyja jubilaru, vystaŭki tvoraŭ, rukapisaŭ i partretaŭ Kupały.

Biełaruskaje Dziaržaŭnaje Vydaviectva pastanaviła sabrać i vydać usie tvory Kupały.



JANKA KUPAŁA

Biełaruski-ž kampazytar Aładaŭ napisaŭ symfonična-vokalnuju paemu da adnaho z naviejšych tvoraŭ Janki Kupały— „Nad rakoj Aresaj". Tvor Aładava — heta ništo inšaje, jak biełaruskaja opera.

Jak bačym, Kupała narešcie zdabyŭ sabie prychilnaść savieckaj ułady; u Zach. Biełarusi adnak ab im chodziać usialakija viestki. Našym pažadańniem jość, kab viestki henyja nia spraŭdzilisia i kab Kupała byŭ adnolkava blizkim usim biełarusam.

## Заміж вянка на магілу брата забітага 23.XI.35.

І паў ты нявіннай ахвярай
З рук подлага служкі паноў —
Жыцьця маладога ня стала
Між верных Айчыне сыноў.
Закрыліся ясныя вочы
У нема-халодным у сьне
І голас, да песьні ахвочы,
Заціхнуў па раньняй вясьне,
Злажыў ты працоўныя рукі
На вечны магільны пакой —
І болей ні скаргі, ні мукі
На сьцежцы жыцьцёвай тваёй.
Ляжыш ты, навылят прабіты,
Абмыты ва ўласнай крыві,
Ляжыш ты, як цяжка пакрыты
Сьлязамі і жалем радні.
Ужо песьня твая адсьпявана,
Агонь жыцьця твайго пагас,
Расьцьвіўшая красха сарвана,
На векі завяла для нас.
Дык сьпі-жа, браточак няшчасны,
Пакрыты сырою зямлёй, —
Дзянёк твой вясёлы і ясны
Абняты магільнаю цьмой.

**А. Жальба.**

* * *

Эх, думкі, вы, думкі мае,
Няма мне спакою ад вас —
Вы-б беднай маёй галаве
Далі аддыхнуць хоць-бы раз...
Вы сэрца загрызьлі маё,
Душу вы стачылі маю —
І цягнецца сумна быцьцё,
І нудна гадзіны плывуць...
Жыцьцё надаела ўжо мне,
Мне цяжка глядзець на свой кут, —
Здаецца — пайшоў-бы у сьвет,
Здаецца — ня жыў-бы я тут,
Каб толькі ня ведаць, ня знаць,
Каб толькі — ня думаць — ня сьніць,
Каб думкі — прагнаць — адагнаць —
Ня плакаць — ня енчаць — ня ныць...

**Мікола Брыс.**

# Źmitrok Biadula — Jasakar
*(Z pryčyny 25-tych uhodkaŭ jahonaj litaraturnaj tvorčaści).*

Jak my ŭžo pisali, sioleta prypadajuć 25-tyja ŭhodki litaraturnaje tvorčaści biełaruskaha piśmieńnika i paeta Samuiła Płaŭnika — syna viaskovaha bałahoła žyda z m. Pasadcy, Vialejskaha pavietu, viedamaha ŭ biełaruskaj litaratury pad pseŭdonimami Źmitraka Biaduli — ŭ prozie i Jasakara — ŭ paezii.

Biadula-Jasakar čałaviek jašče nie stary, bo radziŭsia ŭ 1886 h., mnoha ŭžo napisaŭ i davoli mnoha piša ciapier, žyvučy ŭ Miensku. Bolšyja jahonyja tvory heta: «Abrazki» (impresii — 1913 h.), «Пад родным небам» (vieršy — 1922),



BIADULA-JASAKAR U MAŁADYCH HADOCH.

«На зачараваных гонях» (apaviadańni — 1923), «Буралом» (vieršy — 1924), «Поэмы» (1926), „Язэп Крушынскі" (raman — 1929), „Набліжэньне" (povieść — 1935) i inšyja.

Biadula-Jasakar — našaniviec i ŭ jahonaj tvorčaści prajaŭlałasia luboŭ pierad usim da Biełarusi. Dziela hetaha jon apynuŭšysia ŭ Radavaj Biełarusi, dzie vydana bolšaść jahonych tvoraŭ, byŭ prymušany, padobna jak Kupała, rabić pakajańnie, a paśla hetaha ŭ jahonaj tvorčaści nastupiła adpaviednaja ideolohičnaja źmiena ŭ kamunistyčny bok.

Mima ŭsiaho tvorčaść Biaduli-Jasakara jość cennaj i ŭzbahačvaje biełaruskuju litaraturu. Škada adno, što hranica dzielučaja našu Baćkaŭščynu nie daje mahčymaści bližej zaznajomicca i to nia tolki šyrejšym kruhom biełaruskaha hramadzianstva, ale navat bieł. litaratataram.

# Abisynija.

Apošnim časam uvieś śviet sočyć z napružanaj uvahaj niazvyčajnyja padziei, jakija adbyvajucca ŭ paŭnočna-ŭschodniaj Afrycy, dzie 3 kastryčnika siol. zaharełasia kryvavym połymiem žorstkaja vajna italijancaŭ z abisyncami. Pryčynaj hetaj vajny źjaŭlajecca vostry apetyt italijanskich fašystaŭ, jakija chočuć aružnaj siłaj zahrabić abisynskija ziemli i zrabić ich svajej kalonijaj.

Dzieła hataha varta krychu bližej paznajomicca z sonnym krajem zvanym Abisynijaj abo Etiopijaj.

**Dzie znochodzicca i čym słyvie?** Abisynija znachodzicca ŭ paŭnočna-ŭschodniaj Afrycy, kala Čyrvonaha Mora. Navakoł hraničyć jana z italijanskimi, francuskimi i anhielskimi kalonijami. Prastor Abisynii abyjmaje 2.500.000 kv. klm. (dla paraŭnańnia — etnohrafičnaja Biełaruś zajmaje tolki 326.000 kv. klm.).

Pavierchnia Abisynii harystaja. Najvyšejšy horny viaršok Ras Dašan siahaje 4.620 metraŭ nad pavierchniaj mora. Klimat, u zaležnaści ad vyšyni pavierchni, rozny: na nizie — haračy (u ciańku + 83°), krychu vyšej (1500—2500 m.)—umiarkavany, na horach — ściudziony. Ziemli nižej pałožanyja — vielmi ŭradžajnyja; rastuć tam: bavoŭna, cukrovy tryśnik, kukuruza, kaŭčuk, tytun i roznyja fruktovyja drevy. — Apračа ŭradžajnaj ziamli, Abisynija maje šmat mała daśledžanych i słaba jšče eksploatavanych pryrodnycn bahaćciaŭ: nafta, žaleza, platyna, bury vuhal, zołata, miedź, cyn i inš., na jakija pierad usim i praciahvaje siahońnia ruki italijanski fašyzm.

U paŭnočna-zachodniaj šaści Abisynii lažyć vialikaje voziera Tana, z katoraha biare svoj pačatak viedamaja raka Nił, jaki navadniaje vializarnyja prastory anhielskich kalonijaŭ. Dzieła hetaha Anhlija mocna zainteresavana italijanska-abisynskaj vajnoj. Jana nadta baicca, kab italijancy nie zaŭładali henym vozieram, nie pabudavali na im tamaŭ (šluzaŭ) i hetym samym nia źnistožyli jejnych kalonijaŭ. Anhielskija dyplomaty dzieła hetaha roznymi sposabami starajucca jakniebudź niedapuścić, kab italijancy zavaładali i asieli na abisynskaj ziamli.

Apračа Anhlii taksama mocna zainteresavana italijanska-abisynskaj vajnoj i Francyja. Jana ŭ svaim intaresie pabudavała adzinuju ŭ Abisynii čyhunku, jakaja łučyć stalicu Abisynii Addis Abebu z partovym miestam Džibutti, hałoŭnym miestam francuskaj kalonii.

**Nasielnictva, relihija, zvyčai.** Abisynija vielmi redka zasielena, na ahramadnych jaje prastorach žyvie tolki 12 mil. ludziej.

Nasielnictva Abisynii pieravažna semickaha (svajackaha žydom) pachodžańnia. Značnaja častka Abisyncaŭ pryniała



Vajaŭničyja abisynskija addziely hienerała Machecha ŭ darozie na front.



Abisynskaja (koptyjskaja) katedra ŭ m. Aksum.

chryścijanstva jšče ŭ IV stah.; chutka adnak adpali ad ahulnaj chryścijanskaj łučnaści i siahońnia ichniaja carkva nazyvajecca koptyjskaj.

Katalikoŭ abisyncaŭ jošć tolki kala 30 tys. duš.

U vieravańni i ŭ abradavych formach koptyjskaj carkvy bačym siahońnia vialikija ŭpłyvy pravasłaŭja, mahometanstva, iudejstva (žydoŭstva), roznych sektaŭ i navat pahanstva. Tłumačycca heta tym, što Abisynija ad samaha zarańnia viakoŭ była addzielena dalokim prastoram ad rešty chryścijanstva. Napr.: da pryčaścia (kamunii) koptyjskaja carkva dapuskaje dziaciej ad samaha malenstva, ale spoviedź abaviazvaje tolki tych, chto pražyŭ 25 hadoŭ. Dzieci pry chroście całkom zanurajucca ŭ vadu (jak u pravasłaŭnych), a paśla abrazajucca (jak u žydoŭ). Nabaženstva ŭ śviatyni koptyjskaj składajecca hałoŭnym čynam z čytańnia śv. Piśma, jakoje dazvolena čytać tolki duchoŭniku. Usie žychary Abisynii, chryścijanie i niachryścijanie, śviatkujuć rehularna 2 dni ŭ tydzień — subotu i niadzielu. Akramia taho jošć u ich šmat inšych śviatkoŭ, tak što razam u hod abisyncy śviatkujuć 220 dzion, a na dni budnija astajecca ŭ hodzie tolki 145 dzion.

Pamima taho, što Abisyja ličycca chryścijanskim krajem, adnak i siańnia isnuje ŭ im handal niavolnikami, jaki, praŭda, aficyjalna ŭžo zabaronieny ciapierašnim negusam Haile Selassie.

Abisyncy majuć vielmi mnoha cikavych zvyčajaŭ. Žanimstva napr. u Abisynii nie ŭvažajecca navat za sakrament, a tolki jak zvyčajnaja ŭmova, katoruju možna ŭ kožnaj chvilinie sarvać. Paśla šlubu kolki tydniaŭ abo i miesiacaŭ abisynka adbyvaje h. zv. „žanimskuju probu". Kali jana padčas hetaj proby akažacca ŭva ŭsim adpaviednaj svajmu mužu, to adsiul stanovicca praŭnaj jahonaj žonkaj. Abisynka naraŭni z mužčynam moža trebavać razłuki. U chatnim žyćci žančyna musić viaści ŭsiu haspadarku i pracavać na ŭtrymańnie muža i ŭsiaje siamji. Mužčyna chodzić tolki na palavańnie. Dziaciej uzhadoŭvajuć mužčyny, zabirajučy ich ad matak paśla 6 abo 8 miesiacaŭ u ahulnyja achronki.

**Krychu z historyi i z sučasnaści.**

Abisyncy majuć vialikuju histaryčnuju minuŭčšynu, jakaja siahaje až biblijnych časoŭ. Pavodle lehiendy karaleŭskaja dynastyja ŭ Abisynii vyvodzić svoj rod z Salamona i karalevy Saby, syn katorych byŭ pieršym histaryčnym uładarom Abisynii i nazyvaŭsia Melacham. Patomki jahonyja, pavodle historyi, uvieś čas kiravali Abisynijaj i takim čynam źjaŭlajucca najstarejšaj na śviecie karaleŭskaj dynastyjaj.

U sučasny mament karalom Abisynii źjaŭlajecca Haile Selassie. Zaviecca jon negus negesti (karol karaloŭ) dziela taho, što Abisynija ciapier padzielena na 7 karaleŭstvaŭ. Haile Selassie jošć dalokim svajakom dynastyi Menelika. Raniej,

čym stacca karalom, jon aružnaj siłaj śkinuŭ z karaleŭskaha pasadu svajho papiarednika Lidj Yassoŭ, syna słaŭnaha abisynskaha karala Manelika II i pasadziŭ jaho ŭ vastroh. Baćku Lidj Yassoŭ zahadaŭ zabić kijami, a chvoruju matku vykupać



Abisyncy na froncie.



Italjanskija harmaty pad Adigratam.

u chałodnaj vadzie, ad čaho hetaja chutka pamiorła. Hetyja karyhodnyja pastupki, prypisyvanyja Haile Selassie, pryčynilisia da taho, što siańnia jon maje šmat vorahaŭ siarod svaich paduładnych, jakija ŭvažajuć jaho za ŭzurpatara karaleŭskaha pasadu.

Ciapier na heta źviarnuli asablivuju ŭvahu italijancy. Jany starajucca roznymi padarkami i abiacankami padkupić niezadavolenych z Haile Selassie, pierad usim pavadyroŭ abisynskaha vojska, paśla zdemoralizavać abisynski narod, vyklikać chatniuju revalucyju i takim čynam chutčej i lahčej zavajavać usiu Abisyniju.

Ci hetym planam italijanskich fašystaŭ sudžana zbycca, ciažka siahońnia skazać. U kožnym razie, pryniaŭšy pad uvahu charakternyja svomaści Abisyncaŭ jak nacyi (ćviordaść, advaha, vajaŭničaść, achviarnaść), i ichnuju minuŭščynu, možna skazać z całaj peŭnaściu, što italijancam całaja heta zadača lohka i tanna nia dasca pravieści. Stojkaść-ža Abisyncaŭ, z jakoj jany baroniać svoj kraj ad čužyncaŭ, moža być dobrym prykładam dla šmat jakich padniavolenych narodaŭ na ŭsim śviecie. B. Čanuk.

## 2000-ja ŭhodki naradzinaŭ Horacyja.

Sučasnaja kultura i cyvilizacyja pabudavany na mocnym fundamencie, jaki pałažyli staražytnyja hreckija i rymskija henii. Da liku hetych henijaŭ tvarcoŭ staražytnaj kultury naležyć, miž inšymi, vialiki i słaŭny rymski paet Quintus Flaccus Horatius.

Q. F. Horatius byŭ synam vyzvalenaha niavolnika, siaredniuju (pavodle sučasnaj terminalohii) adukacyju zdabyŭ u Rymie, a vyšejšuju (tahačasnym zvyčajam) u Atenach, dzie dobra paznaŭ hreckuju filozofiju. Napisaŭ jon šmat pryhožych i cennych litaraturnych tvoraŭ, pieravažna vieršam; pisaŭ taksama i prozaj. Viedamymi jahonymi tvorami jość satyry, h. zv. sermones (hutarki), pieśni (ody), piśmy i epody. Usie jany adznačajucca vielmi pryhožaj mastackaj formaj.

Pa źmiestu da cikaviejšych naležać satyry, u jakich Horacy vostra krytykuje roznyja abmyłki i słabyja starony ludziej, zaklikajučy ich da ŭmiarkavanaści, prastaty i ščyraści.

U svaich patryjatyčnych, biasiednych i erotyčnych pieśniach paet zvaračvaje vialikuju ŭvahu na čystatu abyčajaŭ, hanić ludzkuju prahavitaść na hrošy, jakuju ŭvažaje krynicaj usialakaha zła, padčyrkivaje vialikaje značeńnie panavańnia nad svaimi instynktami i ŭrešcie ćvierdzić, što nijakaje bahactva, ni češć, ni ŭsialakija dastojnaści, a tolki zdaroŭje cieła i dušy, u łučnaści z navukaj i mastactvam, robiać žyćcio vartasnym i pažadanym.

U piśmach havoryć Horacy ab zadańniach paety i ab metach poezii.—Źmiest epodaŭ tvorać roznyja drabniejšyja i mieniej važnyja spravy.

Mastackaść tvoraŭ Horacyja i stałaja aktualnaść jahonych ideałaŭ pryčynilisia da taho, što pamiać ab poecie nie zahinuła na praciahu ŭžo až 2000 hadoŭ, jakija ŭ historyi źjaŭlajucca davoli vialikim peryjadam času. Č. N.

## Муляры.

Месяць вапну, цэглу носяць,
Стук ламоў, лапатаў звон...
Муляроў зусюль зыйшлося
Будаваць народны дом.
Разснавалі дом шырока,
Фундамэнты падвялі
А на іх ужо высока
Ставіць сьцены пачалі.
Праца йдзе... і стук, і крыкі
Ўздоўж муроў чуваць кругом,
Хоць ахвяры ўжо бязлікі —
А будуюць новы дом.
Мазалёў нагналі многа,
Потам крэпяць сьвежы мур—
Тут усім адна дарога
Збудаваць яго да хмур...
І растуць маўкліва сьцены
Вышай, вышай з кожным днём
І няма спачынку, зьмены
Запацелым муляром.

**Вярбіна.**

* * *

„Бывайце дні, дні залатыя,
Бывай бурлівае жыцьцё,
З бунтарнай думкаю пужліва
Іду—куды, іду—па што?"

Халодная, марозна,
Сьцюдзёная пара,
На сэрцы так маркотна:
Пануе сум, журба.

Гуляе ў полі вецер
То плача, то пяе,
То сьціхне, зноў у ночы
У коміне гудзе.

Ня так даўно, здаецца,
Вясна цьвіла красой,—
А сёньня плач нясецца
Над сьнежнаю зямлёй.

Сьвятыя дні дзіцячы,
Вясёлае жыцьцё
Пяшчоты, чары ласкі
Сьнягамі замяло...

Заціхне злосна бура
І прыйдзе зноў вясна —
У сэрцу болі, мука
Да скону, да канца...

**Малады Дубок.**



# Аб зімовым спорце.

Надыйшла матка-зіма. Мароз сіняй сталяй скаваў воды, а белым пухам пакрыліся раўніны і ўзгоркі. Кожнае дзіця на Беларусі з радасьцяй ладзіць саначкі, лыжы, канькі, — кожнаму хочацца пагуляць — павазіцца на чыстым зімовым паветры. Адна толькі бяда, — ці пазволюць бацькі?

Вось-жа тут зьвярнуся да бацькоў з просьбай і заклікам, каб ня толькі пазвалялі сваім дзецям забаўляцца на паветры, але каб і самі ім у гэтым дапамагалі. Трэба гэта рабіць дзеля таго: 1) што душныя і цесныя нашы хаты мала маюць сьвежага і чыстага паветра і калі дзіцё цэлымі днямі прабывае ў хаце, то можа аслабіць свой арганізм і захварэць на сухоты, ці іншую якую хваробу;

2. што чыстае зімовае паветра, калі ня надта вялікія маразы (не перавышаюць 16°), нікому здароваму ня шкодзіць, а толькі гартуе арганізм. Людзі напр., што жывуць на поўначы, у холадзе, ёсьць шмат здаравейшыя за нас, і яны надта рэдка хварэюць на сухоты;

3) што дзіцячы арганізм патрабуе ў сваім узросьце руху, ўражаньняў і вясёласьці. Усё гэта дзіцяці дае зімовы спорт: канькі, лыжы, саначкі і таму так да гэтага дзеці і рвуцца;

4) што ў гэтым спорце выробляецца характар дзіцяці, а паіменна: адвага, спрыт і самапэўнасьць.

Каб дзеці аднак маглі належна выкарыстапь зіму, то да гэтага павінны прычыніцца й старэйшыя. Трэба перад усім дзіцяці зрабіць, або купіць, саначкі, канькі і лыжы Надта часта старэйшыя дзеці самі сабе робяць саначкі ці канькі, — ім трэба дапамагчы, паказаць, напр., як загнуць палазы і закруціць пасьля вязы. Наступна, трэба старэйшым агледзіць месца, дзе будуць дзеці вазіцца: ці добра замёржшы вада, ці пад гарой няма якіх карчоў, каменьняў і ям, дзе дзеці маглі-б пакалечыцца. Ня можна ехаць з-гары адзін за адным, а трэба тады зьяжджаць згары наступнаму, калі першы ўжо, заехаўшы, вылез з санак, бо першы можа абярнуцца на гары, а другі тады ўзьедзе на яго. Добра, каб заўсёды пры гэтым быў старэйшы чалавек.

Што да адзежы, то тут бяда не вялікая. Заўсёды можна ў што небудзь прыадзець дзіцё, абуць у боты, дзеравяньнікі, або лапці (абы толькі ногі не прамакалі). Дзіцё на саначках, на лыжах ніколі ня зьмерзьне, бо яно заўсёды ў руху, хворае дзіцё толькі ня можна бяз дохтара пускаць на двор.

Дык вось, паважаныя бацькі і апякуны, калі хочаце, каб вашы дзеткі былі здаровымі, адважнымі і спрытнымі, каб калісь з прыемнасьцю і радасьцю ўспаміналі сваё дзяцінства, то дапамагайце, як мага, выкарыстаць ім у меру зімовы спорт. Гэтым споўніце адзін з абавязкаў адносна вашых дзяцей, адносна нашага грамадзянства і бацькаўшчыны.

**Д-р Я. Малецкі.**

## 15-tyja ŭhodki Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu

Ahulna-biełaruskaja niezaležnaja studenckaja arhanizacyja ŭ Vilni — Biełaruski Studencki Sajuz — 1-ha śnieźnia sioleta ŭračysta śviatkavała 15 tyja ŭhodki svajho isnavańnia. Ranicaj adbylisia nabaženstvy na intencyju biełaruskaha studenctva: ŭ kaściele śv. Mikałaja z adpaviednym, hłybokim i pryhožym biełaruskim kazańniem Ks. Ad. Stankieviča i ŭ Piatnickaj Carkvie. Pa paŭdni adbyłasia ŭ universytecie Akademija z referatami, deklamacyjami i vystupleńniem Choru hram. Šyrmy, a ŭviečary ŭ zali Lit. Stud. Sajuzu — skoki.

Treba skazać, što Biełaruski Studencki Sajuz, ci koratka BSS, za čas svajho isnavańnia mnoha dobraha zrabiŭ dla spravy biełaruskaha adradžeńnia, a što najhałaŭniejšaje—vytrymaŭ jon pieramožna ataki savietafiłaŭ i polonafiłaŭ, astajučysia arhanizacyjaj ahulna-biełaruskaj, niezaležnickaj, viernaj ideałam biełaruskaha narodu i bieła-čyrvona-biełamu narodnamu ściahu. Dyk i nia dziva, što na śviatkavalnuju Akademiju ŭ zalu Śniadeckich u vilenskim universytecie sabrałasia mnoha ludziej, jak starejšych tak i małodšych, što z vusnaŭ pradstaŭnikoŭ badaj usich biełaruskich arhanizacyjaŭ sypalisia pachvalnyja pramovy i što nadychodzili pryvitalnyja piśmy i telehramy z usich staron. 15-tyja ŭhodki isnavańnia BSS ušanavaŭ svajej prysutnaściu na Akademii Rektar universytetu b. ministr Stanievič. Ušanavali tak-ža hetyja ŭhodki i ciešylisia imi pradstaŭniki studenctva bratnich narodaŭ ukraincaŭ i litoŭcaŭ, jakija, vitajučy haračymi pramovami bieł. studenctva, žadali BSS dalejšaha razrostu na słavu Biełarusi.

Ahułam śviatkavańnie 15-tych uhodkaŭ BSS zrabiła vialikaje i pryjemnaje ŭražańnia dla kožnaha biełarusa.

Našym žadańniem jość, kab BSS zhurtavaŭ kala siabie ŭsiu studenckuju moładź u Vilni i dalej niaŭtomna pracavaŭ na karyść Biełarusi i na karyść svaich siabroŭ, uzhadoŭvajučy ich na dobrych pracaŭnikoŭ dla dabra Biełaruskaha Narodu!...

J—k.

---

## Suproć fašyzmu i ahraničvańnia pravoŭ narodnych masaŭ

Redakcyi polskich radykalnych časapisaŭ, a tak-ža niekatoryja, pieravažna maładyja, litaratary i publicysty abvieścili deklaracyju „Za parazumieńniem", u jakoj zaklikajuć niezaležnych piśmieńnikaŭ i artystaŭ da salidarnaści z imi ŭ abaronie kultury; deklarujuć pry hetym supolny front z narodnymi masami ŭ zmahańni za ichnija pravy. Adnačasna vyskazvajucca jany praciŭ fašyzmu, praciŭ adbirańnia palityčnych pravoŭ narodnym masam, praciŭ ahraničvańnia svabody słova, nacyjanalnaha ŭcisku, niedapuskańnia pracoŭnych masaŭ da aśviety, a tak-ža praciŭ vajny.

Novy hety abjaŭ u polskim žyćci, nia hledziačy na toje, skul jon biare svoj pačatak, treba pryvitać, bo-ž dla biełaruskaha narodu nastup fašyzmu asabliva jość hroznym, tak jak i kamunizm, katory ahraničvaje svabodu našych bratoŭ na ŭschodzie. My i ŭsia biełaruskaja moładź padtrymlivajem kožnaje zmahańnie za svabodu, sami zmahajemsia i budziem zmahacca zaŭsiody pierad usim za poŭnuju svabodu Biełaruskaha Narodu, a tak-ža za pravy ŭsich pracoŭnych.

j. n.

## Z KRAJU

— **Varejki**, Vaŭkavyskaha pav. Žychary našaj vołaści kališci dzialilisia na „palakoŭ" i „kacapaŭ". Siańnia bolšaść moładzi dzialbu hetu adkidaje, bo ŭžo paznała, što dzialba heta da ničoha dobraha nie daviadzie. Ludzi ŭ nas što-raz bolš pačynajuć lubić svaju Baćkaŭščynu, svaje zvyčai i pieśni. Ab hetym moža śviedčyć vialikaje zacikaŭleńnie pieradavanymi praz radyjo vystupleńniami biełaruskaha choru hram. Šyrmy ŭ Vilni. I kali takija pieradačy jość, dyk usie starajucca jak-niebudź dastacca da radjovych aparataŭ, katorych u nas vielmi mała, i pasłuchać.

Nadavanyja bieł. pieśni ŭ traŭni miesiacy ŭ Varejkach słuchała sabrańnie sałtysoŭ usiaje našaje vołaści. A kali končyŭsia śpieŭ, dyk adzin sołtys źviarnuŭsia da vučyciela (było heta ŭ škole) i kaža: „Panočku, ci nia možna było-b zakrucić, kab jany jašče krychu paśpiavali..." *Uładčuk.*

— **Juški**, Vilenska-Trockaha pav. U našaj vioscy ŭžo piaty hod jak isnuje hurtok Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury. Sioleta ŭhodki henyja navat byli ŭračysta adśviatkavany na specyjalna sarhanizavanym schodzie. Asabliva mnoha karyści prynosić nam biblijateka, z jakoj šmat chto karystaje i jakaja adciahvaje ludziej ad kartaŭ i inšaha pustoha marnavańnia času. Biblijateka na vioscy heta sapraŭdy vohnišča śviatła i kultury. Dyk radzim usim zakładać pa vioskach hurtki Instytutu, a pry ich biblijateki. *Karystalnik z biblijateki.*

— **Рось**, Ваўкавыскага пав. Наша моладзь праваслаўнага веравызнаньня пераважна сьведамая нацыянальна і свайго ня чураецца. Каталікі ўсьцяж яшчэ пробуюць польшчыць. Апошнім часам наўкруга адчуваецца бязбожніцкая акцыя. Так напр. у пачатку лістапада ў в. Альхова аднае ночы нехта вывесіў чырвоны сьцяг на крыжы. Беларускую арганізаваную працу афіцыяльна цяжка праводзіць. Моладзь аднак ня траціць часу і кожную магчымасьць належна выкарыстывае дзеля беларускае народнае справы. *В. Дуброўскі.*

## U BIEŁ. SKAŬTAŬ

—23.XI siol. Biełaruskija Skaŭty ŭ Vilni ładzili ŭ zali bieł. himnazii viečar dziela ŭšanavańnia 15-tych uhodkaŭ Słuckaha Paŭstańnia. Viečar hety pačaŭ karotkaj pramovaj družynovy K. Paŭli. Paśla inž. Busieł — učaśnik Słuckaha Paŭstańnia — pračytaŭ adpaviedny referat.

— 20 h. m-ca dasiulešni pravadnik Vil. Bieł. Skaŭtaŭ K. Paŭli, z pryčyny navału pracy ŭ źviazku z nabližajučaj maturaj, admoviŭsia zajmać heta stanovišča. Na jaho miesca naznačany Anatol Brazoŭski, katoramu žadajem płodnaje pracy na skaŭckaj nivie. U časie kaladnich feryjaŭ druž. A. Brazoŭski budzie na instruktarskich skaŭck. kursach arhanizavanych vil. skaŭtami.

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

Апошнім часам на беларускай выдавецкай ніве заўважваецца ажыўленьне. Пачалі даволі часта паяўляцца новыя беларускія кніжкі, а нават і часапісы. Кожнай такой новасьці хацелася-б пасьвяціць крыху больш увагі і паінфармаваць аб ёй чытачоў. Нажаль, вузкія рамкі нашага часапісу не пазваляюць нам гэтага рабіць і змушаюць аграніччыцца бадай толькі да рэестрацыі новых беларускіх выданьняў, што ніжэй і робім.

*Ад. Станкевіч* — **Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.** Выд. „Шляху Моладзі." Вільня 1935 г. 128 бач. фар. 8⁰. Цана 1 зл. — Гэта праца ведамага беларускага дзеяча, кс. Ад. Станкевіча, якая бадай у працягу двух гадоў друкавалася на бачынах нашага часапісу і заканчэньне якое зьмяшчаем у гэтым нумары. Значэньне яе і цэннасьць, як самі чытачы маглі праканацца, вялікая. Кніжка выдана старанна з ілюстрацыямі і ў прыгожай калеровай вокладцы.

*Ул. Казлоўшчык* — **Шляхам Змаганьня.** Зборнік вершаў. Выд. „Новага Шляху." Вільня 1935 г. 64 бач. фармат 16⁰. Цана 50 гр. Кніжыца гэта зьяўляецца першым зборнікам вершаў беларускага паэта ў Зах. Беларусі Ул. Казлоўшчыка, нашага супрацоўніка, творчасьць якога часткова чытачы маглі пазнаць з бачын „Шляху Моладзі." Вершы Ул. К. бадзёрыя і пераважна патрыётычныя.

*Dr. Stanisłaŭ i dr. Jadwiha Hrynkiewičy* — **Rady chworym i zdarowym.** častka 1. Ab zaraznych i inšych chwarobach. Vyd. „Biełaruskaj Krynicy". Vilnia 1935. 120 bač. Farmat 8⁰. Cana 50 hr. — Ab źmieście hetaj knižki havoryć jaje nazoŭ. Patrebnaj i karysnaj moža jana być dla kožnaha, asabliva-ž dla sialan, katoryja časta pazbaŭleny mahčymaści mieć lekarskuju pomač.

*Ks. praf. dr. J. Tarasewič*—**Biełarusy ŭ świątle praŭdy.** Biblijateka „Chryścijanskaj Dumki" № 25. Vyd. „Chr. Dumki". Vilnia 1935. 40 bač. Farmat 8⁰. Cana 20 hr. — Žmiest hetaj knižycy relihijny. Aŭtor jaje zaklikaje Biełarusaŭ paznavać Praŭdu Božuju, lubić Boha, bližniaha, svoj narod, svaju baćkaŭščynu, svaju movu i ŭsio svajo...

*D. Aniśko* — **Da Biełaruskaha Narodu.** Biblijateka „Chryścijanskaj Dumki" №26. Vyd. „Chr. Dumki". Vilnia 1935 40 bač. Far. 8⁰. Cana 20 hr. — źmiest hetaj knižycy, relihijny, padobna, jak i knižycy Ks. praf. dr. J. Taraseviča, u duchu katalickim. D. Aniśko, tak jak i Ks. praf. dr. J. T., zaklikaje Biełarusaŭ da pracy na relihijnaj nivie, a tak-ža i da pracy na nivie hramadzkaj biełaruskaj, kab ździejśniŭsia ideał Aktu 25.III.1918.

**Officyjum Najśw. Dziewy Maryi Niepawinnaha Začaćcia (Hadzinki).** Pieradruk z katalickaha malitaŭnika „Hołas Dušy". Vydańnie «Bieł. Katalickaha Vydaviectva». 16 bač.

Farm. 32°. Cana 10 hr. Maleńkaja hetaja knižyca, relihijnaha źmiestu, vydana na pamiatku pieršych biełaruskich katalickich Rarataŭ u Vilni, jakija adbylisia sioleta 15.XII u kaściele św. Mikałaja. Raraty arhanizavaŭ Biełaruski Kaścielny Kamitet na intencyju pracoŭnych miesta Vilni, katoryja ŭ vialikim liku pryjšli na heta nabaženstva i zapoŭnili kaścioł św. Mikałaja.

**„Калосьсе“** — літаратурна-навуковы часапіс — кн. 4. Вільня 1935. Бач. 52 фар. 8° у мастацкай вокладцы. Выдае адзін раз у 3 м-цы Бел. Інстытут Гасп. і Культуры, складка на кніжку 1 зл., на год—4 зл. Адрас Рэд.: Вільня, Завальная 1.

Зьмест гэтае кніжкі распачынае артыкул Я. Шутовіча аб сёлетніх беларускіх юбілярах-песьнярох: Я. Купале і З. Бядулі. Далей ідуць некаторыя іх творы. Творчасьць бел. паэтаў у Зах. Беларусі годна рэпрэзэнтуюць Н. Арсеньнева, М. Машара, А. Бярозка, А. Чэмер і Бік. Рэно. Пасьля літаратурнага аддзелу замешчаны артыкул Ад. Станкевіча: „Цені й блескі,“ М. Пецюкевіча—аб Нікіфароўскім і Ул. Талочкі—аб праф. М. Баброўскім. Закончваецца кніжка кнігапісам і багатай хронікай. У гэтай кніжцы „Калосься“ замешчаны партрэты Я. Купалы, З Бядулі і М. Нікіфароўскага.

**„Наша Воля.“** Пад гэткім назовам выйшаў 24 г. м. №1 новага бел. палітычнага часапісу, які мае выходзіць раз у два тыдні. Рэдактарам і выдаўцом яго зьяўляецца студ. В. Склубоўскі. Часапіс пакульшто ня выявіў ясна свайго аблічча і ня прынёс нічога новага. **Я—к.**

*Др. Я. Станкевіч.* **Апытальнік дзеля зьбіраньня дыялектычных і некаторых агульных асаблівасьцяў беларускага языка.** Выданьне Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Унівэрсытэце С. Б. у Вільні. Бач. 48; фарм. 8°; цана 50 гр.

Багацьце жывой беларускай мовы рассыпана па ўсім прасторы Беларусі ў форме розных гаворак (дыялектаў). Заданьнем маладой беларускай філёлёгіі (— навука аб мове) ёсьць сабраць гэтае багацьце, запісаць, выясьніць усякія спорныя пытаньні ў беларускай філёлёгіі. З гэтай мэтай і выданы гэты „Апытальнік“. У ім ёсьць зьмешчана 213 пытаньняў з беларускай мовы, на якія трэба адказаць. Сабраныя так адказы з усіх куткоў Беларусі дадуць магчымасьць выясьніць многа спорных і няясных справаў і пазнаць лепш асаблівасьці паасобных гаворак. Дзеля гэтага абавязкам кожнага беларуса інтэлігента на вёсцы ёсьць напісаць адказы на гэты „Апытальнік“ згодна з мовай сваёй мясцовасьці. Тым, якія возьмуцца гэта зрабіць, Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы на жаданьне высылае „Апытальнік“ бясплатна. Зварочвацца ў гэтай справе трэба пад такім адрэсам: Koło Przyjaciół Białorusoznawstwa *Wilno*, Zamkowa 13. Seminarjum Slawistyczne. *А. L.*

# ХРОНІКА

## З беларускага жыцьця

**Судзьдзі літаратурнага конкурсу „Шляху Моладзі".** На просьбу рэдакцыі „Шл. Мол.", згадзіліся прыняць на сябе абавязкі судзьдзяў у літаратурным конкурсе „Шл. Мол.": гр. М. Мілючанка, магістр філёзофіі Я. Хвораст і б. рэдактар „Шл. Мол." грам. М. Пяцюкевіч.

**З дзейнасьці Віленскага Аддзелу БІГіК.** — 24. XI сёл. у памешканьні Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры ў Вільні др. Я. Малецкі прачытаў першую, а 8 XII другую часьць свайго рэфэрату „Мы і наша Бацькаўшчына." Людзей было поўная заля — пераважна моладзь і работнікі.

**Новы гурток БІГіК.** нядаўна заснаваўся ў Беластоку, да дзейнасьці аднак ня можа пакульшто прыступіць, бо адміністрацыйныя польскія ўлады ня хочуць прыняць да ведама яго паўстаньня, г. зн. ня хочуць яго легалізаваць.

**З дзейнасьці ТБШ.** — 24.XI у Віленскім Цэнтральным Гуртку ТБШ. адбылася лекцыя грам. Р. Шырмы на тэму „Уплывы літаратуры на жыцьцё грамадзянства і адзінкі."— 7.XII там-жа адбылася лекцыя грам. В. Склубоўскага аб культурнай працы на вёсцы.

**Вечар беларускай песьні** адбыўся 18.XI сёл. у Вільні ў залі „Ogniska Akademickiego", у часе якога рэфэрат аб беларускай народнай песьні прачытаў грам. Цітовіч. Пасьля рэфэрату квартэт сьпевакоў пад кіраўніцтвам таго-ж Цітовіча прыгожа выканаў некалькі бел. народных песьняў.

**„Środa literacka" прысьвячаная беларускай літаратуры.** 15.I.36 адбудзецца чарговая „Środa literacka," арганізаваная Прафэсыянальным Саюзам Польскіх Літаратараў у Вільні (Астрабрамская 9), якая будзе прысьвячана беларускай літаратуры. У праграме яе рэфэраты: А. Луцкевіча — аб беларускай літаратуры нашаніўскай пары і Ст. Станкевіча— аб сучаснай беларускай паэзіі. Абодва рэфэраты будуць пераплятаныя рэцытацыямі беларускіх вершаў. Рыцытаваць будуць Фр. Аляхновіч і Г. Сухая. Пачатак а гадз. 20.

**Выстаўка абразоў П. Сяргіевіча.** 26.XII сёл. у Вільні ў залі пры вул. Міцкевіча 7 адбылося адкрыцьцё выстаўкі абразоў беларускага мастака Пётры Сяргіевіча. Выстаўка будзе трываць да 8.I.36.

**Ліквідацыя гуртка ТБШ у Сьвіслачы.** Польскія адміністрацыйныя ўлады зачынілі гурток ТБШ у Сьвіслачы, Ваўкавыскага пав.

**Адведзіны.** 23.XI сёл. адведаў Рэдакцыю „Шляху Моладзі" украінскі журналіст Анатоль Курдыдык, а 9.XII беларускі паэт Міхась Машара. Як ведама, М. Машара зьяўляецца адным з найлепшых маладых беларускіх паэтаў у Зах. Беларусі. Жыве ён у вельмі цяжкіх матар'яльных абставі-

нах на вёсцы, фізычна зарабляючы на кавалак хлеба. Ня гледзячы на гэта Машара кожную вольную хвіліну выкарыстывае для літаратурнае працы. Цяпер ён піша новую паэму „Матчыная горка.“

**Суд.** 21.XI.1935 Віл. Акруж. Суд, разглядзяўшы справу рэдактара „Бел Крыніцы“ грам. Я. Пазьняка, абвінавачанага з 153 арт. К.К у сувязі з канфіскатай № 38 з 1934 „Бел. Крыніцы“ засудзіў яго на 2 тыдні арышту. Грам. Я. Пазьняк падаў апэляцыю.

**Беларус здабыў нагароду.** Грам. Я. Скурат—беларус—за сваю магістэрскую працу здабыў нагароду ім. бельгійскай літараткі Флёры Розэнталь у суме 2,400 зл. польскіх.

**Выступленьне беларускага хору ў Радыё.** 21.XI сёл. у Віленскім Радыё выступаў беларускі хор пад кіраўніцтвам грам. Шырмы, які ўдала выканаў некалькі беларускіх песьняў. Зацікаўленьне гэтым выступленьнем было вялікае, а ўражаньне з яго вельмі добрае. Пажадана, каб такія выступленьні ў Радыё адбываліся часьцей.

**Арышт.** У м-цы сьнежні паліцыя арыштавала вучня VI кл. Віленскай Беларускай Гімназіі Ул. Рагача.

**Сумныя весткі.** Даведваемся, што многа вучняў, бо аж каля 20 проц., Віленскае Беларускае Гімназіі пасьля Каляд будуць змушаны перарваць сваю навуку з прычыны немагчымасьці аплаціць належнасьці за навуку.

## Латыскі нацыяналізм шалее

Даведваемся, што нядаўна латыскія нацыяналістычныя ўлады зьліквідавалі Таварыства Беларускае Моладзі ў Латвіі, каторае мела больш 1000 сяброў. Гэтыя-ж улады зьліквідавалі так-жа нядаўна культурна-асьветнае Т-ва „Беларуская Хатка,“ якое было найстарэйшай культурна-асьветнай беларускай установай у Латвіі і найбольш лёяльнай да латыскіх уладаў. Апошнімі часамі разьвівала яно даволі энэргічна сваю дзейнасьць.—Калі возьмем яшчэ пад увагу паступовую ліквідацыю беларускага школьніцтва дык пабачым, што жарлочны латыскі нацыяналізм адносна беларусаў ня мае граніц. Вось-жа беларускае грамадзянства, і усе беларускія арганізацыі ў Зах. Беларусі павінны на гэта адпаведна зарэагаваць, бо-ж у Латвіі на нашых вачох адбываецца нячуваны і кожнага чалавека абураючы гвалт над нашымі братамі.

*Рэдагуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

## USIAČYNA

— 18.XI sioleta ŭ Varšavie pačaŭsia vialiki palityčny praces 12 maładych ukraincaŭ: 1) Ściapana Bandery, 2) Mikoły Łebedia, 3) Darii Hnatkivskaj, 4) Jarosława Karpyncia, 5) Mykoły Kłymyšyna, 6) Bahdana Pidhajnaha, 7) Ivana Maluca, 8) Jakiva Čornyja, 9) Jevhienija Kačmarskaha, 10) Ramana Myhala, 11) Katrusi Zaryčkaj i 12) Jarosława Raka, abvinavačanych za ŭčaście ŭ zabojstvie ministra B. Pierackaha, jakoha 15.VI.1934 h. byccam zabiŭ małady ukrainiec Hryć Maciejko, siabra Ukrainskaj Nacyjanalistyčnaj Arhanizacyi i paśla ŭciok zahranicu. Usie abvinavačanyja, za vyniatkam R. Myhala, admovilisia ŭ sudzie havaryć papolsku i trymajucca badziora. Baroniać ich 4 ukrainskija advakaty. Zacikaŭleńnie hetym pracesam vialikaje nia tolki ŭ Polščy, ale i zahranicaj. Končycca sud zdajecca tolki ŭ pačatku studzienia 1936 h.

— Dasiulešni Prezydent Čechasłavackaj Respubliki Praf. Dr. Tamaš G. Masaryk, čałaviek vysokaje kultury i vialikich zasłuh dla svaje baćkaŭščyny, dabravolna ŭstupiŭ z zajmanaha dahetul pasadu prezydenta, z pryčyny staraści — maje ciapier 86 hadoŭ. Na jaho miesca vybrany na prezydenta Čechasłavacyi ministr zahraničnych spraŭ dr. Edvard Beneš.

— Vajna italijanska-abisynskaja dalej razharajecca. Apošnim časam stali štoraz čaściej pieramahać abisyncy i navat adabrali niekatoryja svaje terytoryi zaniatyja italijancami. Francuski premjer Laval chacieŭ pahadzić Italiju z Abisynijaj, adnak jamu heta nie ŭdałosia.

— Niadaŭna dva amerykanskija aficery Albert Stevens i Oroil A. Anderson, na specyjalna zbudavanym vializarnym balonie, padnialisia na vyšyniu 22 kilametry i 500 metraŭ.

— Prezydent Polščy, pry ŭkładańni budžetu na 1936—37 hod, zažadaŭ abnizić sabie pensiju na 60,000 zł. u hod. Paśla hetaje abnižki pensija Prezydenta budzie naličać 16,500 złotaŭ u miesiac.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Н. Жальбе. — Атрымалі, дзякуем і просьбу спаўняем. Каталёг кніжак высылаем і з яго Вы даведаецеся, што трэба.

Вярбіне. — Апавяданьні атрымалі, слабаватыя і пакульшто надрукаваць іх не абяцаем. можа ў будучыне, калі будзем мець крыху больш месца, — тады паправіўшы пастараемся надрукаваць. Пішыце і працуйце над сабой.

Jazepu Pitušcy. — Piśmo atrymali, prośbu spoŭnili.

Міколе Брысу. — Верш атрымалі, як бачыце, друкуем. Пішыце больш, толькі больш оптымізму, бадзёрасьці, а менш бедаваньня.

Дняпрову.—„Із асеньніх матываў“ добрая рэч, але не начасе.

Чарнабылю і Чаромхіну. — Вершаў радзім Вам больш ня пісаць, прозу будзем старацца па магчымасьці друкаваць. Пішыце і чытайце больш беларускіх кніжак.

А. Чэмеру. — Шчыра дзякуем за прысланае і перапрашаем, што з увагі на цэнзуру ня зможам выкарыстаць. Просьбу споўнілі Прывітаньне!

Стасюку Кісламу. — За мілае пісьмо і матар'ялы шчырая падзяка. Вершаў радзім Вам ня пісаць зусім, а больш пасьвяціць увагі прозе. Просьбу спаўняем.

Маладому Дубку. — За прывітаньне і матар'ялы—шчырая падзяка. „Шлях Моладзі“ праз цэлы 1935 г. высылалі мы Вам акуратна, выслана была так-жа і прэмія, бо грошы ад Вас мы атрымалі. Дужа цешымся, што Вы пачалі пісаць прозай і хацелі б што-небудзь мець. Вашы вершы патрабуюць шмат паправак. Просьбу спаўняем. Прывітаньне!

Аўтору 4 пісьмаў высланых з Горадні 2. Вы кепска нас зразумелі і глядзіцё на гэту справу наіўна, падзяцінназму, не бяручы пад увагу ані прошлых падзеяў у бел. жыцьці, ані будучыні. Больш разсудку і крытыцызму, больш веры ў свае сілы!

## KUTOK RAZRYVAK

Pad redakcyjaj U. Paŭlukoŭskaha

### Raźviazańni z Nr. 11 (84).

**Logogryf Nr. 2:** kaŠa, kaVa, kaRa, kapa.

**Zadačy: Nr 3** — vohkaj (syroj), bo ŭ najlepšaj suchoj ziamli raślina nia moža raści.

**Nr 4** — noč, bo ŭnačy: hruhana nia vidać.

**Nr 5** — dno.

**Enstychoz**

Куцьця, Утрата, Памяць, Ацёпак, Локаць, Атрута.

**Jak heta zrabić i gieometryčnaja zadača:**

Sposaby vykanańnia 1, 2 i 3 zadač, a tak-ža raźviazańni zadačy gieometryčnaj pakazvajuć adpaviednyja rysunki: 1, 2, 3 i 4.

Rys. 1



Rys. 2




Rys. 3




Rys 4



Usio heta pravilna raźviazaŭ T. Hutor, za što jak naharodu, atrymaŭ knižku „Шляхам Жыцьця“ — J. Kupały.